*Урач медыцынскага цэнтра «ЛОДЭ» Наталля Нагорская – пра капсульны метад дыягностыкі* (чытайце на 7-й стар.)

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**№ 22 (4377)**

19 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СКАЗАНА!**

## Лідзія Ярмошына: палітычныя партыі дэградуюць…

Кіраўнік Цэнтрвыбаркама Л.Ярмошына ў інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь 24» выказалася так:

*– На жаль, нашы партыі дэградуюць. Паляпшэння няма. Наадварот, рэзкае пагаршэнне. Калі мы ўспомнім першыя гады беларускай дзяржаўнасці, палітычныя партыі былі нашмат больш актыўнымі.*

**БЛІЦ**

## Хто вінаваты ў дэградацыі партый?

**Сяргей КАЛЯКІН,**
**старшыня Беларускай партыі левых**
**«Справядлівы свет»:**

– У Беларусі створаны ўсе ўмовы, каб палітычныя партыі былі ліквідаваны. І тое, што яны існуюць да гэтага часу, гэта насамрэч пэўны беларускі цуд. Таму што нават тыя законы, якія сёння дзейнічаюць у краіне, не абавязкова выконваюцца.

І мы, напэўна, адзіная краіна на постсавецкай прасторы, дзе няма дзяржаўнага фінансавання партый. Партыі не могуць удзельнічаць у выбарах, бо ў Беларусі мажарытарная сістэма. Акрамя таго, у нас нават знялі дзяржаўнае фінансаванне ўдзелу ў выбарах, хаця раней нейкія грошы на гэта давалі. Сёння людзі павінны самі плаціць за ўдзел у выбарах, ведаючы, што вынік будзе нулявы, бо празрыстага выбарчага працэсу да гэтага часу няма.

Таму выснова Лідзіі Ярмошынай вельмі і вельмі правільная. Але ў дэградацыі партый вінавата тая сістэма, якая была створана за апошнія 25 гадоў. І да гэтага прыклаў руку непасрэдна Цэнтрвыбаркам на чале з Ярмошынай.

**Мікалай КАЗЛОЎ,**
**выконваючы абавязкі старшыні**
**Аб'яднанай дэмакратычнай партыі:**

– Я казаў бы не пра дэградацыю, а пра зніжэнне палітычнай актыўнасці. І пакуль у краіне будуць праводзіцца такія выбары, як пры Ярмошынай, то не толькі ў партый, а ва ўсяго насельніцтва апусцяцца рукі.

**Георгій АТАМАНАЎ,**
**другі сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі:**

– Калі казаць пра палітычную актыўнасць партый, то ў нечым Ярмошына мае рацыю. У нас не так шмат партый, якія пастаянна на слыху. У Беларусі афіцыйна зарэгістравана, калі не памыляюся, каля 15 партый, а людзі пра большасць з іх наогул не ведаюць. Іх і не чутно, і не бачна.

**Сяргей ЧЭРАЧЭНЬ,**
**старшыня партыі**
**«Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада»:**

– Калі дзяржава ў значнай ступені не дае магчымасці партыям развівацца, ставіць ім палкі ў колы, то ўсё відавочна. Партыі не могуць у поўнай меры ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці.

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ,**
**першы намеснік старшыні**
**Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі:**

– У такой дэградацыі вінаваты і самі партыі, і дзяржава. Раней большасць партый жыла ва ўмовах, калі на іх ішоў «залаты дождж» з розных фондаў. Ім было добра, але партыйныя структуры яны не развівалі. Закончыўся гэты дождж, і партыі ледзь выжываюць. Не могуць аплаціць офісы, утрымліваць іх. Хаця заўсёды трэба найперш апірацца на ўласныя сілы, як гэта робім мы.

А дзяржава ў дэградацыі таксама вінавата, бо ва ўсім свеце ўжо перайшлі на выбары па партыйных спісах. Можна такую практыку колькі заўгодна крытыкаваць, але альтэрнатывы гэтаму пакуль не прыдумалі.

А яшчэ, калі мы кажам пра незалежнасць і ўмацаванне дзяржаўных асноў, трэба падтрымліваць патрыятычныя партыі, для таго каб сфарміраваўся палітычны клас, які заўсёды стаяў бы на абароне дзяржаўнасці і патрыятызму.

**Ігар БАРЫСАЎ,**
**старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай**
**партыі (Грамада):**

– Не казаў бы, што ў Беларусі ўсе партыі слабыя альбо іх не падтрымлівае народ. Тут іншая сітуацыя. Некаторыя з іх проста не ўпісваюцца ў сённяшнюю палітычную сістэму. З-за апазіцыйнасці ўлады іх усяляк прэсінгуюць.

Без палітычнай волі, без дзяржаўнага фінансавання партый кардынальна змяніць сітуацыю немагчыма. На маю думку, падаткаплацельшчыкі павінны фінансаваць плюралізм думак у краіне, і гэта нармальная практыка. Ва Украіне і Літве, напрыклад, такое ёсць. Партыі, якія ўдзельнічаюць у выбарах, праходзяць у парламент, атрымліваюць сродкі для свайго існавання.

Таму павінен абавязкова з'явіцца дакумент, які будзе рэгламентаваць фінансаванне палітычных партый. Тады і дэградацыі не будзе. Пакіньце сёння Цэнтрвыбаркам цалкам без фінансавання – і на якім узроўні дэградацыі ён разам з Ярмошынай будзе знаходзіцца?

**Сяргей ПАПКОЎ,**
**намеснік старшыні**
**Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ:**

– Абсалютна несур'ёзнае пытанне. Сёння галоўнае, пра што трэба думаць, – як змяніць рэжым. Зменіцца рэжым – будуць жыць і партыі.

**Апытанне праводзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**КРЫМІНАЛ**




## Больш за 100 кілаграмаў бурштыну не ўдалося вывезці за мяжу

32-гадовы жыхар Брэсцкай вобласці праваліўся ў пункце пропуску «Брэст»: мытнікі выявілі ў тайніку яго мікрааўтобуса больш за 100 кілаграмаў неапрацаванага бурштыну. Цяпер мужчыну чакае суд, які, хутчэй за ўсё, канфіскуе не толькі бурштын коштам прыкладна 11–12 тысяч долараў, але і аўтамабіль Mersedes-Benz. Да таго ж яму пагражаюць вялікія штрафныя санкцыі.

**Раіса КОМЛІКАВА.**

**ВІЗІТ**

## Арлем Дэзір – у Мінску

Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Арлем Дэзір учора прыбыў у Мінск. Ён мае намер сустрэцца з прадстаўнікамі дзяржаўных органаў, кіраўнікамі і журналістамі сродкаў масавай інфармацыі, медыяэкспертамі.

Французу Арлему Дэзіру, які быў прызначаны прадстаўніком АБСЕ па свабодзе СМІ ў 2017 годзе, не ўпершыню даводзіцца знаёміцца з сітуацыяй у Беларусі. Цікава, якія высновы ён зробіць на гэты раз.

**ЖЫЦЦЁ ЯК ЯНО ЁСЦЬ**

## «Мне пенсія дапамагае выжываць…»

*На 1 студзеня гэтага года 83 арганізацыі краіны мелі запазычанасць перад сваімі работнікамі па зарплаце, заявіў нядаўна старшыня Савета Рэспублікі Міхаіл Мясніковіч. Больш за ўсё даўжнікоў у Віцебскай вобласці – 70 арганізацый. А як выжываюць людзі, якім нерэгулярна плацяць за выкананую працу?*

Ёсць у Аршанскім раёне свінагадоўчы комплекс – селекцыйна-гібрыдны цэнтр «Задняпроўскі». Ён быў узведзены яшчэ ў 1984 годзе.

У 2016-м «Задняпроўскі» стаў філіялам Аршанскага камбіната хлебапрадуктаў. Тады да яго далучылі некалькі сельгаспрадпрыемстваў рэгіёна, птушкафабрыку, мясакансервавы камбінат, сырзавод, малочны камбінат – стварылі холдынг. «Задняпроўскі» лічыўся адным з самых праблемных, прадпрыемства не мадэрнізавалася з савецкіх часоў, было ў даўгах. Гучалі меркаванні, што лепш пабудаваць новы свінакомплекс, чым спрабаваць рэанімаваць стары. Але прадпрыемства захавалі. Сёння затрымка зарплаты на «СГЦ «Задняпроўскі» – не рэдкасць.

– Я на гэтым прадпрыемстве больш за 30 гадоў працую, – неахвотна, але падзяліўся сваімі буднямі **Аляксандр Антоненка**. – Прафесія ў мяне рэдкая, працую асемянатарам. На нашым комплексе арганізаваны ўвесь тэхналагічны працэс па вытворчасці свініны. Раней, яшчэ ў часы Саюза, гэта была перадавая гаспадарка. На ўвесь СССР, калі не памыляюся, былі толькі чатыры падобныя жывёлагадоўчыя комплексы. Саўгас, якому комплекс належаў, быў заможны. А цяпер справы ідуць усё горш і горш. Зарплату затрымліваюць рэгулярна. Літаральна днямі разлічыліся толькі за студзень, а ўжо павінны былі аддаць за люты.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**УЛЫБКА ХУДОЖНИКА**




Недавно в СМИ прошла информация, что в Светлогорском районе выставлен на продажу аэродром для малой авиации с начальной ценой в одну базовую величину – 25,5 рубля. Когда-то с этого аэродрома регулярно летали самолеты в Гомель и Минск, а сейчас он стоит в запустении.

В этой связи художнику «Народной Воли» Ирине Пустоваловой вспомнился анекдот советских времен. Колхоз-миллионер. Идет собрание по поводу, куда потратить лишний миллион. Предложений много: построить еще один коровник или свинарник, новое картофелехранилище и т.д. Дед тянет руку и кричит с места: «Купим фанеры!» «Зачем фанера?» – спрашивают его. «Построим ераплан! И улетим к такой-то матери!!!»

**АДГУКНІЦЕСЯ!**

## «Народнай Волі» не хапае 2000 падпісчыкаў

Сярод друкаваных незалежных газет «Народная Воля» лічыцца лідарам. Разавы тыраж – больш за 23.000 экзэмпляраў. Але гэтага недастаткова для бесперабойнага выхаду выдання ў другім квартале – выраслі тарыфы на паліграфічныя паслугі, падскочылі цэны на паперу, транспартныя і іншыя расходы. Выйсце адно – павялічыць кола падпісчыкаў на 2000 чалавек.

Сёння мы звяртаемся да Вас, пастаянных нашых чытачоў і прыхільнікаў. Менавіта Вы можаце зрабіць сур'ёзны ўнёсак у рэкламу «Народнай Волі», пашырэнне яе аўдыторыі. Звярніцеся, калі ласка, да сваіх сяброў, сваякоў, суседзяў, саслужыўцаў, выклічце ў іх цікавасць да нашай газеты, настойліва парайце ім аператыўна падпісацца на «Народную Волю».

Заўважым, кошт месячнай падпіскі на «Народную Волю» – 7 рублёў 20 капеек. Індывідуальны індэкс – **63222**. Каб атрымліваць газету з 1 красавіка, неабходна аформіць падпіску да 27 сакавіка. Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку». Магчыма гэта таксама праз сістэму АРІП, запоўніўшы на сайце **www.nv-online.info** альбо на сайце **http://belpressa.by** электронны бланк падпіскі і аплаціўшы карткай.

«Народная Воля» – за адраджэнне Беларусі, за ўмацаванне дэмакратыі, за захаванне правоў чалавека.

**Разам умацуем тыраж «Народнай Волі»!**

***Рэдакцыя.***

**АКТУАЛИИ**



Светлана
КАЛИНКИНА

## Не рыпайтесь!

В доме повешенного не говорят о веревке. А в доме того, кого готовы повесить?..

Посол России в Беларуси Михаил Бабич решил, что говорить можно и нужно. Он собрал в Минске первую большую пресс-конференцию для белорусских журналистов и посвятил ее… 5-летию присоединения Крыма к России.

Очень гладко все прозвучало. Еще в 1873 году был подписан манифест Екатерины II «О принятии полуострова Крымского, острова Тамана и всей Кубанской стороны под Российскую державу». «Украинский этап» в жизни Крыма – это было политическое недоразумение. Пока в Украине не произошел «государственный переворот», Россия о возвращении Крыма не думала, к нему не готовилась, вопрос не ставила. Ну а потом уже защищала права русских и «право народа на самоопределение». И сегодня Крым счастлив, а будет еще более счастлив и богат.

Если коротко, это то, что сказал посол. И еще – важное – связи с Беларусью, параллелей, намеков во всех этих речах якобы нет. Совсем нет!

А я вот думаю, что посол показал нам веревку. Потому что есть и намеки, и параллели.

О том, что Россия готовит для Беларуси крымский сценарий, не говорит только ленивый. Правда, Михаил Бабич назвал подобные разговоры провокацией, но дипломаты не всегда искренни и даже, как правило, не искренни – это все знают.

Что же касается «крымской заготовки» для нас, которой якобы нет даже в мыслях, то приведу лишь один пример. Московский государственный институт международных отношений Министерства иностранных дел Российской Федерации издал монографию «Мир в XXI в.: прогноз развития международной обстановки по странам и регионам». Раздел 6.1.3 называется «Белоруссия: тернистый путь к интеграции с Россией». В нем аналитики дают прогноз развития Беларуси до 2050 года, в котором должно произойти слияние государств.

Конкретные рекомендации таковы: как можно скорее заменить Лукашенко на более пророссийского президента, чтобы уменьшить количество пролитой крови при аннексии, – мол, Лукашенко растит националистов, которые могут стать препятствием к бескровному процессу. Кроме того, Россия должна иметь план вроде крымского к моменту передачи власти в Беларуси.

Монографию, к слову, написали сотрудники Центра военно-политических исследований МГИМО, не фантасты и не фантазеры.

И еще не пример, но мнение. Бывший Генеральный секретарь НАТО Андерс Фог Расмуссен буквально в конце февраля заявил, что Россия планирует присоединить Беларусь с целью вплотную приблизиться к границам Европы. *«Ключевой риск – это повторение в Беларуси украинского сценария с войной и аннексией. Эту страну ждет такой сценарий, если она не начнет реформироваться»,* – сказал Расмуссен.

Провокация?

Но во главе НАТО по определению не мог стоять глупый человек. Уж как минимум не дурнее посла Бабича. Поэтому не надо считать и нас дураками.

Задумаемся: с чего это российский посол решил рассказать белорусам о Крыме, не имея на руках даже элементарных данных об объемах экономического сотрудничества между этим регионом и нашей страной?

А с того, что хотел донести до белорусской публики мысль, что не надо бояться такой перспективы. Что круто будет, деньги пойдут, Россия поднимет регион, как поднимает Крым. Посол упрекал Украину, что не инвестировала в Крым, запустила его. Будто Россия сумела поднять свои регионы, будто это не у них горы замерзших фекалий на улицах вместо нормальной канализации.

Громить аргументы Бабича можно по каждому пункту – начиная от «права нации на самоопределение», за выражение которого в самой России предусмотрена уголовная ответственность, до статуса украинского языка, «который остается в Крыму государственным», но говорить на нем все-таки опасно.

Однако главный тезис, который для убедительности российский посол несколько раз повторил: если бы не события в Киеве, если бы не Майдан, если бы не смена власти, если бы не рост националистических настроений, то не было бы никакого присоединения Крыма. Мол, граждане белорусы, не рыпайтесь! Сидите, где сидите! Жуйте, что дают! Принимайте мир таким, каким его видят из башен Кремля! И этого будет достаточно.

Но лукавил посол. Потому что у этого тезиса есть логическое продолжение. Сидите, молчите, не рыпайтесь, закройте глаза на происходящее и сдадите суверенитет по копеечке. Без шока и потрясений сдадите. Тихо-мирно, сами. Даже крымский сценарий не понадобится. Сдадите – как каждую неделю сдаете цены на бензин. (Не я увидела параллель в сдаче суверенитета с тем, какой тактикой власть усмирила протесты против роста цен на бензин, Владимир Некляев увидел, и я с ним очень согласна, потому цитирую.)

Послу надо, чтобы мы обманывались, чтобы привыкали к мысли об «углублении интеграции», чтобы считали, что вхождение в состав России – это не страшно.

И тогда через некоторое время посол сможет цитировать применительно к Беларуси все ту же Екатерину II. Потому что она не только по Крыму манифесты подписывала, но и по белорусским землям тоже.

Хотим ли мы, чтобы на современный лад применительно к территории Беларуси зазвучало: «Взять в действительное наше владение все под российский скипетр назначенные места и земли и расположа в них наперед определенные для того войска»?..

Если не хотим, то будем рыпаться, надо рыпаться! Бежать надо! От такого «углубления интеграции» бежать надо со всех ног. Пока не стало поздно.

ДЫЯЛОГІ



Міхась СКОБЛА – Уладзіслаў МІСЕВІЧ

# «Беларускія песні хочуць чуць і на Камчатцы»



*За плячамі заслужанага артыста Беларусі Уладзіслава Місевіча – 45 гадоў «песняроўскага» стажу. 25 з іх ён адпрацаваў разам з Уладзімірам Мулявіным, астатнія 20 – у «Беларускіх песнярах», якія з'явіліся на свет у канцы 1990-х. Нядаўна ў адным з расійскіх выдавецтваў выйшла яго кніга «Песняры. Я роман с продолженьем пишу», дзе знайшлі свае адлюстраванне і зорны час, і перыяд заняпаду «Песняроў». Можна сказаць, што гэта папулярная энцыклапедыя легендарнага беларускага ВІА. Расказана ў ёй і пра тое, як працягваюць мулявінскія традыцыі «Беларускія песняры». Прыехаўшы пасля чарговых гастроляў у родны Мінск, Уладзіслаў Місевіч пагадзіўся на гутарку для «Народнай Волі».*

## «Палова рэпертуару – беларускамоўныя песні»

**– Уладзіслаў Людвігавіч, дзе і перад кім «Беларускія песняры» сёння выступаюць?**

– Найчасцей у Расіі. Прыкладна 80 працэнтаў нашых выступленняў – для расійскай публікі. Так, дарэчы, было і ў часы «Песняроў». І гэта зразумела: блізкія мовы, нас там разумеюць, рэпертуар «песняроўскі» традыцыйна двухмоўны. У Казахстане ў нас намнога менш стала канцэртаў, Украіна зусім адпала. Рынак звужаецца. Вы заўважылі, як часта ў Беларусь сталі прыязджаць расійскія артысты – па 2–3 разы на год. І мы дома выступаем, нядаўна канцэрт быў у Мінску.

**– У «Фэйсбуку» я бачыў ваша нядаўняе выступленне на Камчатцы. Зімой – і на адкрытай пляцоўцы! Не беражаце вы сябе.**

– На Камчатку мы два гады запар ездзілі – на святы мясцовыя. У савецкі час мы там толькі аднойчы пабывалі. Гэта было зімой, працавалі ў тэатры. У памяці толькі і засталося – снег, пяць канцэртаў за дзень, сіл няма па горадзе прайсціся. А цяпер мы мелі час, нікуды не спяшаліся. Камчатка раней была закрытай тэрыторыяй, а сёння там тысячы замежных турыстаў. Канцэрт сапраўды адбыўся на вольным паветры, потым мы нават у мінеральных крыніцах пакупаліся – там жа гейзеры гарачыя з-пад зямлі б'юць. Людзі на сабачых запрэжках ездзяць – у гарах і нават па гарадскіх ускраінах. Цікава было!

**– А які ў «Беларускіх песняроў» рэпертуар?**

– Спачатку мы больш увагі надавалі новым песням, стараліся не паўтарацца. Наш рэпертуар моцна абнавіўся дзякуючы таленавітаму Алегу Аверыну, ён і новыя песні пісаў, і па-новаму старыя аранжыраваў. Пра гэта мала хто ведае, але «Белавежская пушча», напрыклад, існуе ў трох аранжыроўках.

**– А што яшчэ са старога рэпертуару вы працягваеце спяваць?**

– Шмат што. Скажам, нядаўна вярнулі песню «За полчаса до весны», публіцы яна падабаецца. А на канцэрце ў Мінску праспявалі раманс на вершы Генадзя Бураўкіна «Ці ўспамінала ты мяне». На жаль, ён даўно нідзе не гучыць – ні на радыё, ні на тэлебачанні. А ў канцэрце яго ўспрынялі вельмі цёпла.

**– Мне расказваў Анатоль Кашапараў, што, як толькі ён дзе-небудзь у Расіі выходзіць на сцэну, з залы адразу крычаць: «Вологду» давай!» А вам што заказваюць?**

– Відаць, сама наяўнасць Кашапарава на сцэне правакуе да падобных выкрыкаў, песня гэтая з ім найперш атаясамліваецца. На нашых канцэртах «Вологду» не заказваюць. Але другія «песняроўскія» хіты просяць выканаць, у тым ліку беларускія.

**– На Камчатцы хочуць чуць беларускія песні?**

– Канешне! І не толькі на Камчатцы – паўсюдна. У нас палова рэпертуару – беларускамоўная. Так і ў часы Мулявіна было. Наша першая пласцінка ў 1972 годзе ўвогуле была цалкам на беларускай мове. Мы пра гэта спецыяльна не думалі, так атрымалася.

**– Вы ж родам з Арэнбурга. Як лёгка вам даліся ўсе нашы «звонкія *дзе* і густыя *чаго*»?**

– У мяне бабуля гаварыла па-беларуску, бацька ўмеў размаўляць па-польску. Продкі мае з Беласточчыны і Вілейшчыны.

## «Мулявін прызначыў мяне адказным за дысцыпліну»

**– Адпрацаваўшы ў «Песнярах» – старых і новых – 45 гадоў, вы маеце нейкі асаблівы статус старэйшыны ў калектыве?**

– Афіцыйна – не, барані Божа! Мне гэта не патрэбна. Ды і ўсім астатнім таксама. Проста так атрымалася: я старэйшы, нехта малодшы. У мулявінскіх «Песнярах» мы ўсе былі маладыя, бывала, і чаркай злоўжывалі. І Мулявін сказаў: не будзе дысцыпліны – не будзе выніку. І прызначыў Змея (мая мянушка ў калектыве) адказным за дысцыпліну. А ў мяне набор «выхаваўчых» метадаў яшчэ з войска… Мог вельмі жорстка з малодшым пагаварыць, нават да рукапрыкладства некалькі разоў даходзіла.

**– За парушэнне дысцыпліны вы маглі ўдарыць калегу?**

– Было пару разоў, я ніколі гэтага на афішаваў. Парушальнік быў адзін і той жа, не буду прозвішча называць. Неяк Валера Дайнека ўспамінаў: «Калі Змей дысцыпліну вайсковымі метадамі ўсталёўваў – жах проста быў! А цяпер Місевіч – нармальны, прыемны чалавек». Во – сам Дайнека так сказаў.

**– У «Беларускіх песнярах» няма лідара? Але ж нездарма кажуць, што без каманды войска гіне.**

– Лідара агульнага ў нас сапраўды няма. Лідар у вакале – Дайнека, у музыцы – і Дайнека, і Аверын, і Максім Пугачоў, і Аляксандр Кацікаў. У кожнага з іх свае моцныя бакі. І барані Божа, каб я іх нечаму вучыў, паказваў, што больш за іх ведаю. Калі спытаюцца – магу сёе-тое парадзіць. Пакапаўшыся ў памяці, нешта згадаць са старой практыкі. На жаль, вакал мой ужо даўно не той. Сцёрся голас, столькі гадоў спяваў...

**– Ці былі да «Беларускіх песняроў» нейкія прэтэнзіі з боку вашых былых калег? З-за назвы, з-за таго ж рэпертуару?**

– Аднойчы, на самым пачатку, перад выступленнем у Маскве Леанід Барткевіч, не ведаючы, што мы ўжо практычна атрымалі брэнд «Беларускія песняры», напісаў на нас заяву ў міліцыю. Ён проста хацеў выступіць з намі ў адным канцэрце, мы не згадзіліся, а ён нас здаў. І вымушаны былі разбірацца. З таго часу гэты чалавек для мяне не існуе. Дакладней, існаваў да пэўнага года, калі ён спяваў у мулявінскіх «Песнярах».

**– Столькі гадоў вы працавалі разам. Крыўдна было?**

– Вядома ж, крыўдна. Нейкія дзіцячыя прэтэнзіі – вазьміце і мяне з сабой, а не возьмеце – дык я вам адпомшчу. Сапраўдны мужык на такое не пойдзе.

**– Мулявін са Свярдлоўска, вы з Арэнбурга, Ігар Пеня з Астрахані. І менавіта «Песняры» ўзнялі беларускую песню (найперш народную) на вышыню проста касмічную. У вас ёсць нейкае тлумачэнне гэтай з'яве?**

– Не чакайце ад мяне сведчанняў, як аднойчы Валодзя прачнуўся, а нехта зверху паказаў яму правільны шлях. Хай ужо рэлігія трымаецца на цудах, мне самому хочацца нейкага рацыянальнага вытлумачэння. Але як растлумачыць творчы дар, які быў у Мулявіна? Кажуць, любы талент – гэта 90 працэнтаў працы. І Валодзя ж працаваў, як вол. Але ёсць яшчэ і шанцаванне, да якога чалавек бывае не гатовы. Мулявін быў гатовы. І яму пашанцавала, што мы ўсе разам сабраліся. Талент і шанцунак – гэта ўжо 99 працэнтаў поспеху.

## «Трэба спяваць: «Станіславы не хачу, бо на лаву не ўскачу»

**– Я чуў, што Мулявін планаваў стварыць шмат песенных праграм на мовах народаў СССР. Пачаў з беларускай і – забыўся на свае планы.**

– Гэта лухта несусветная, якую нават няёмка тыражаваць. Здаецца, яе запусціла Святлана Пенкіна. Мулявіну ў галаву я не мог зазірнуць, мяркую толькі па выніках. Ён усё рабіў, добра абдумаўшы. Доўга выношваў свае задумы, разумеў, якую каштоўнасць мае беларуская народная песня. Помню, як, прыехаўшы ў Мінск, я адразу адчуў розніцу. Мяне здзівіла, што ў народнай музыцы гучаць скрыпкі. Гэта ж Італія, найскладанейшы інструмент! Наяўнасць скрыпкі – гэта ўжо ўплыў заходняй культуры.

**– Але «Песняры» адраджалі найперш беларускі народны мелас, вярталі гучанне забытых музычных інструментаў. Здаецца, у вас нават колавая ліра была?**

– Была, і не толькі ліра. Бо народныя песні мусілі гучаць пад народныя інструменты. А аўтэнтычная песня не заўсёды магла прайсці на сцэну. Неяк Мулявіну ў Ленінградзе падарылі том народных песняў у запісе фалькларыста Шэйна. Дык там што ні песня – абавязкова з эратычным падтэкстам! Нават «Касіў Ясь канюшыну»! Не кажучы ўжо пра «Хлопец пашаньку пахае, ў яго сошанька крывая…».

**– А які ж эратычны падтэкст можа быць у «Касіў Ясь канюшыну»?**

– У Шэйна было: «Станіславы не хачу, бо на лаву *не ўскачу*». А мы спявалі – «*не ўсаджу*». Папраўдзі, што называецца, народ… Кнігу тую Мулявін бярог, як зрэнку вока. Калі яе захацеў пачытаць хормайстар Уладзімір Зіневіч, я ледзьве выпрасіў – на ноч. Вывучыўшы фальклор па першакрыніцах, мой сябра прафесар Зіневіч стварыў выдатны гурт «Грамніцы», ён і цяпер існуе, я з задавальненнем слухаю яго ў інтэрнэце.

**– «Песняроўскае» выкананне народных песняў многіх проста захапляла. Хачу тут прывесці водгук Ларысы Геніюш, які вам, відаць, на вочы не трапляўся. Муж паэткі Іван Пятровіч паехаў у санаторый пад Віцебскам, а яна паслухала ваш першы дыск і піша яму: «Мяне асабліва захапіла песня «А ў полі вярба пахілёная». Якое ж цуда – гэтыя хлопцы! Народная душа аж дрыжыць на іх вуснах, трапяткая, жывая і вечная. Гэтак ажываюць скарбы, утаптаныя ў жвір прыдарожны». І што вы думаеце? Іван Пятровіч Геніюш уцёк з санаторыя, каб разам з жонкай слухаць «Песняроў»!**

– Цікавы факт, я пра яго сапраўды не ведаў. А ведаеце, мы і цяпер спяваем Геніюш – Саша Кацікаў напісаў на яе вершы цэлую праграму. На жаль, у мяне няма цягі да паэзіі. Не, я магу пачытаць, пазахапляцца, але каб сістэматычна вывучаць… А Мулявін вывучаў. І як ён «Песню пра долю» скампанаваў з паэзіі Купалы! Купала быў яго паэтам. Я толькі здзіўляўся: Валодзя на мове не гаворыць, а чытае – як рэпу грызе. І – галоўнае – як разумеў прачытанае!

## «Любімай песняй Машэрава была «Александрына»

**– Мулявін і «Малітву» з двух розных вершаў скампанаваў. Рэдка бывае, каб песню складалі па кавалках. А як Мулявін геніяльна папраўдзі Купалу – адзін раз спявае «распетаю буду маліцца душой», а другі раз – «распятаю». Адну літару змяніў, а як узбагаціўся сэнс!**

– Ну, «Малітва» – гэта вяршыня ў песенным жанры. Там, канешне, Моўчан – малайчына, але такі шэдэўр мог з'явіцца толькі ў творчым саюзе з Мулявіным. Сам Алег, дарэчы, гэта прызнае.

**– І яшчэ адна песня стала лёсавызначальнай для «Песняроў». Вы ў сваёй кнізе пішаце, як Машэраў, паслухаўшы на адным з канцэртаў «Александрыну», распарадзіўся: «Усім выканаўцам даць заслужаных артыстаў, а Мулявіну – народнага». Гэта была любімая песня першага сакратара ЦК КПБ?**

– Атрымліваецца – так. Хоць мы пра гэта не ведалі. Спачатку Машэраў да нас проста прыглядаўся. Інтэлігентны быў чалавек, адчуваўся ў ім былы настаўнік. Неяк на канцэрце ў філармоніі мы зайшлі да яго ў ложу. Ён размаўляў з намі, як бацька, казаў: «Хлопцы, не злоўжывайце чаркай, не гуляйце, вы маладыя, у вас яшчэ ўсё жыццё наперадзе». Чыноўнікі ведалі пра яго адносіны да нас, і ўжо адно гэта здымала многія праблемы. Тады ж кожны выезд за мяжу – сур'ёзныя гутаркі наверсе, праверкі анкет. Але нас у ЦК дапытвалі хутчэй для фармальнасці, бо ведалі, што Машэраў – за.

**– Вас за мяжой успрымалі як беларускі калектыў ці як прадстаўнікоў усяго СССР?**

– У далёкім замежжы мы ўспрымаліся як пасланцы Савецкага Саюза, часам і рускімі называлі, як, скажам, у ЗША. А ў Польшчы, напрыклад, нас ведалі як беларусаў. Па-рознаму бывала. Гэта як да нас прыедзе брытанец і скажа: я шатландзец. Але для нас ён усё роўна англічанін... Помню, у Амерыцы ўсе захапляліся: ай, якія ў вас прыгожыя касцюмы! І мы тлумачылі, што гэта – беларускія, з'яўлялася нагода расказаць пра сябе.

## «Хочацца сказаць агітатарам за Сталіна: хлопцы, з агнём гуляеце»

**– У выдатнай «песняроўскай» праграме «Праз усю вайну» была песня «Возвращение», дзе ў прыпеве гучала: «Выпьем за родину, выпьем за Сталина». Але потым Сталін знік. Па чыёй ініцыятыве?**

– Мы гэтую песню і цяпер спяваем. Рэдка, праўда. І вось як яе спяваць – са Сталіным ці без, – я і да гэтай пары не ведаю. І пры Мулявіне не ведалі. Спяваем «са Сталіным» – палове залы, бачым, непрыемна, другая палова крычыць: малайцы! Успрыманне неадназначнае – дзесьці 50 на 50. І Мулявін вырашыў замест слоў пра Сталіна «ла-ла-ла» спяваць. Што мы і рабілі. Хоць, калі быць гістарычна дакладным, у пасляваенны час усе спявалі гэтую песню. Спявалі, каб другі раз не сядзець. І мой бацька не плакаў, калі Сталін памёр. Я гэта памятаю, мне было 8 гадоў.

**– Сёння ў Расіі пэўныя сілы зноў узднімаюць Сталіна на катурны, помнікі яму ставяцца.**

– Я гэта бачу і не апраўдваю сучасных сталіністаў. Але гэта складаная тэма. Многія гістарычныя асобы вінаваты ў знішчэнні тысяч людзей. Напрыклад, Напалеон, які лічыцца вялікім палкаводцам.

**– Ну, Напалеон свой народ усё ж не знішчаў.**

– Згодны. Часам хочацца сказаць тым, хто агітуе за Сталіна: хлопцы, з агнём гуляеце. А што атрымаеце на выхадзе? Ах, перамога ў вайне і ўсё такое. Але ў 1945-м перамог чорт чорта. Дык хіба пасля гэтага ён стаў меншым чортам?

**– Вы ў Мінску жывяце за 200 метраў ад плошчы Перамогі. Як вы ставіцеся да таго, што на помніку можа з'явіцца імя Сталіна? Беларуская Акадэмія навук палічыла гэта мэтазгодным.**

– Я не стаў бы гэтага рабіць. Калі ў гарадскіх улад з'явіліся лішнія грошы, лепш пусціць іх на дзіцячы сад і не бударажыць народ. Вось у Расіі камусьці захацелася Валгаград перайменаваць у Сталінград, дык жыхары супраць. Бітва была і застаецца Сталінградскай, а горад хоча застацца Валгаградам. У Мінску на плошчы Перамогі гарыць Вечны агонь па ўсіх загінуўшых беларусах, чаму там павінна быць імя аднаго чалавека?

## «Мы і цяпер кормімся з творчасці Мулявіна»

**– Шмат старонак у сваёй кнізе вы прысвяцілі самаму драматычнаму перыяду ў гісторыі «Песняроў», калі калектыў пачаў распадацца. На гэты конт існуе шмат розных версій і меркаванняў. Паводле вашай думкі атрымліваецца, што Мулявін сам справакаваў распад, не справіўшыся з алкагольнай залежнасцю.**

– На жаль, гэта канстатацыя факта. Ні ў якім разе не асуджэнне. У Мулявіна ўсё было: талент, голас, пачуццё гумару неверагоднае. Хлопцы слова грубага ад яго не чулі – у адрозненне ад Змея-Місевіча. І вынік быў ашаламляльны! Помню машэраўскія словы: «Займаешся Мінскім аўтазаводам зранку да вечара, а на прыбытак выйсці так цяжка! А «Песняры» нічога не патрабуюць – і мільёны сыплюцца, як з вядра». Нам было прыемна гэта чуць. Але ж такі поспех з неба не падае. Нагрузку Мулявін нёс каласальную! І столькі паспеў зрабіць! Мы і цяпер, я прызнаю гэта, кормімся з яго творчасці.

**– А вы неяк дапамагалі Мулявіну справіцца з «зялёным змеем»? Вы ж адказвалі за дысцыпліну ў калектыве. Змей «змея» не спрабаваў перамагчы?**

– Спрабаваў, даходзіла да таго, што з рук Валодзі вырываў пляшку… Спачатку ён напіваўся, але выбачаўся перад калектывам. Потым, глядзім, ужо і не выбачаецца. Цяжка пра гэта гаварыць… Мне Мулявін пасля гадоў пятнаццаць сніўся. Мы без яго адпрацавалі сотні канцэртаў, ён з намі ўжо не мог ездзіць. Хоць мы Валодзі трэць заробленага сумленна аддавалі. Але атмасфера ў калектыве была… Я ледзь дачакаўся пенсіённага ўзросту, каб сысці.

**– І чым вы займаліся, сышоўшы?**

– Гандлем. Пенсію мне далі 70 долараў, як можна было выжыць? Хоць тагачасныя 70 значылі больш, чым сённяшнія 150. А тады і кватэру пасля разводу я пакінуў жонцы, жыў у інтэрнаце. Машынамі гандляваў, круціўся неяк. А тут ізноў мода на ВІА пайшла. Мне з Масквы тэлефануе Шурык Дзямешка, з Нью-Ёрка – Лёня Барткевіч. Маўляў, давай паспрабуем свой калектыў стварыць. Тады ўжо Пенкіна рэжысёрам пры Валодзі была. Пры нас яна на першыя ролі не прэтэндавала, мы лёгка заганялі яе ў куток. І вось мы з хлопцамі збіраемся ў маім офісе, абмяркоўваем сітуацыю. Мулявіну нехта пра нашы сходкі расказаў, і пачаў ён хлопцаў зацісaskаць. Ігара Пеню звольніў. Што і прыспешыла наша рашэнне.

**– Аб стварэнні «Беларускіх песняроў»?**

– Ну так. Спачатку мы з Кацікавым у Маскву на разведку паехалі. Потым Дайнека і Пеня ехалі на аўто, трапілі ў аварыю і моцна разбіліся. Пеня хутка акрыяў, а без Дайнекі мы месяцы тры-чатыры працавалі.

**– У вас ёсць сталая база ў Маскве?**

– Адміністрацыя ёсць. Да апошняга часу мы арандавалі студыю, але стала дорага ўтрымліваць. Ды і студыі цяпер – на кожнай вуліцы. Кватэрныя пытанні ва ўсіх вырашаны па-рознаму. Нехта здымае жыллё, нехта прыкупіў, я па-ранейшаму жыву ў Мінску. Але пакуль мы ў Расіі запатрабаваны, будзем там працаваць.

**– Вам хутка 74 гады. Дай Божа вам творчага даўгалецця, але калі сітуацыя зменіцца да горшага, як будзеце жыць на 300 рублёў?**

– Як усе. Хіба я адзін такі?

## «Найлепшае месца на свеце – лецішча ў Астрашыцкім Гарадку»

**– Хто вас сустракае ў Мінску пасля гастроляў?**

– Вольга – другая жонка. Агульных дзяцей у нас няма, Вользінага сына я фактычна гадаваў. Ад першага шлюбу ў мяне дачка, жыве ў Англіі, балетам займаецца. Нарадзіла мне ўнука Майкла, ён ужо ва ўніверсітэце вучыцца. І тут унучка нарадзілася. Так што я двойчы дзед. А першую жонку нядаўна пахаваў. Яны адна за адной сышлі – жонка і любімая цешча, маці Вольгі.

**– У кнізе вы напісалі, што найлепшае месца на свеце для вас – лецішча ў Астрашыцкім Гарадку. Відаць, не адзін вы так лічыце, паколькі Мікалай Лукашэнка вучыцца ў мясцовай школе.**

– Месца там сапраўды шыкоўнае. Ад майго лецішча да рэзідэнцыі, дарэчы, зусім блізка. Як толькі прэзідэнт там з'явіўся, правялі гарадскія тэлефоны, дарогі зрабілі. Але самае вялікае дасягненне – зладзеі перасталі лазіць па лецішчах. Дарэчы, там шмат хто ўчасткі атрымліваў – Ігар Лучанок, той жа Мулявін. Але засталіся нямногія.

**– У рэпертуары «Песняроў» быў і купалаўскі «Курган», дзе князь, звяртаючыся да гусляра, казаў: «Запяеш да душы, дасі ўцехі гасцям – поўны гуслі насыплю дукатаў». А той бясстрашна адказваў: «Гуслям, княжа, не пішуць законаў». У адносінах «мастак – улада» вам такая пазіцыя блізкая?**

– Я з рознымі адносінамі збоку ўлады сутыкаўся – 45 гадоў на сцэне. Мне найбольш блізкае стаўленне Машэрава – ён дапамагаў нам, не ўмешваючыся ў творчы працэс. Разумееце, у эстрадных выканаўцаў амаль заўсёды ёсць гнільца нейкая. Больш высокае мастацтва менш залежнае ад улады, а эстрадка грашыць гэтым: «чаго пажадаеце?». З тых, каго я ведаў асабіста, хіба адзін Мулявін у гэтым сэнсе быў абсалютна незалежным чалавекам. Таму ён і вялікі творца, геній, як і купалаўскі гусляр.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# «Гледзячы на чужы «ідэальны свет», вельмі лёгка страціць веру ў сябе»



*Сусветна вядомая мадэль і маці траіх дзяцей беларуска **Кацярына Даманькова** патлумачыла, чаму ў сацыяльных сетках ніколі не друкуе фотаздымкі сваіх дзяцей.*

«Мае падпісчыкі ведаюць, што я ніколі не паказваю твары сваіх дзяцей, – *гаворыць Кацярына.* – Для мяне гэта пытанне не толькі бяспекі, але таксама павагі асабістых межаў дзіцяці. Яны цяпер вельмі маленькія і могуць нават не ведаць, што ў маім профілі з'яўляюцца фатаграфіі або відэа з імі. Але дзіця – гэта, несумненна, асоба, і яно само павінна прымаць рашэнне, з'яўляцца ў сацыяльных сетках ці не. Вядома, не ў тры гады і не ў пяць, а калі падрасце. Не выключана, што дзеці могуць убачыць у інтэрнэце нейкае відэа пра сябе, якое замілоўвае бацькоў, але не падабаецца ім самім, – гэта парушыць іх межы.

Я не дзялюся ў сацсетках нейкімі патаемнымі асабістымі гісторыямі. Усё, што тычыцца маёй сям'і, адносін з мужам застаецца за рамкамі Instagram, гэта мая зона камфорту. Грань у кожнага свая і залежыць ад мэты, якую ставіць чалавек: хтосьці выкладвае пасты для ўласнага задавальнення, хто-небудзь хоча здабыць папулярнасць. Гэта выключна асабісты выбар».

*Дарэчы, Кацярына Даманькова не баіцца выглядаць недасканалай у вачах старонніх людзей.*

«З самаацэнкай у мяне ўсё добра, я сябе люблю, паважаю, ведаю, чаго я вартая, – *гаворыць вядомая мадэль*. – Гэтая ўнутраная гармонія дазваляе мне знаходзіцца ў гармоніі з навакольным светам. Мая самаацэнка стабільная: яна не змяняецца з-за таго, што я сёння неяк не так выглядаю, ад таго, што ў мяне пасля родаў цэлюліт ці мне нешта не падабаецца ў маім целе. Гэта ўсё толькі дапамагае зразумець, над чым трэба папрацаваць, – вось такое здаровае прыняцце сябе.

Мяне не страшыць усведамленне таго, што я магу быць недасканалай у чыіхсьці вачах. Я маю права не адпавядаць ідэалу, прачнуцца з мяшкамі пад вачыма, не прадумваць да дробязяў свой вобраз, быць сумнай ці маўклівай... Вельмі важна, каб жанчыны гэта разумелі.

Зараз на жанчыну аказваецца вялікі ціск, мы арыентуемся на карцінкі, а не на рэальных людзей. Гледзячы на такі чужы «ідэальны свет», вельмі лёгка страціць веру ў сябе...»

**Галіна РУТ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 САКАВІКА 2019 г.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

Наталья НАГОРСКАЯ,
заведующая эндоскопическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ»:

# «Эндоскопию не заменит ни рентген, ни УЗИ»



*Заболевание легче предупредить, чем лечить, – истина, которую знают все. Но некоторые диагностические процедуры многие из нас не хотят делать из-за опасения, что это неприятно или слишком болезненно и даже травматично. Например, глотать зонд или делать колоноскопию. Но именно эти эндоскопические исследования, настаивают медики, позволяют увидеть изнутри наш желудок, кишечник и другие отделы пищеварительного тракта и помочь вовремя диагностировать многие заболевания.*

*Можно ли избежать неприятных ощущений при гастро- или колоноскопии? Есть ли альтернативные методы исследования желудочно-кишечного тракта? Что такое капсульная эндоскопия? Наш собеседник – заведующая эндоскопическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ»* ***Наталья НАГОРСКАЯ.***

## «Доктор все сделает сам!»

– Прежде всего хочу отметить, что гастроскопия – осмотр верхних отделов желудочно-кишечного тракта – никогда не была болезненной процедурой, – *отмечает Наталья Витальевна.* – Гастроскопия – неприятное исследование, но терпимое, а с годами ввиду усовершенствования аппаратуры, с улучшением опыта работы врачей оно становится более комфортным. Лет 20–30 назад, когда эндоскопия только начинала развиваться, приходилось работать на жестком оборудовании, эндоскопы были толще в диаметре, сейчас аппараты стали более эластичные, мягкие, легко проходят анатомические изгибы. Современное оборудование и высокая квалификация специалистов позволяют провести это исследование с минимальным количеством неприятных ощущений.

Но у человека все равно сохраняется большой страх, что в его организм через самые чувствительные зоны вводится инородное тело, ему непросто заставить себя «проглотить» пусть даже очень тонкий и гибкий «шланг», он не может побороть этот страх. Хотя ему и не нужно глотать.

К сожалению, гастроскопия ассоциируется с укоренившимися в нашем сознании стереотипами: «глотнуть зонд», «протолкнуть зонд». Это неправильные термины. При данном исследовании от пациента ничего не требуется, кроме как правильно дышать и внимательно слушать врача. Хороший специалист все сделает сам для того, чтобы процедура прошла без неприятных ощущений.

**– Наталья Витальевна, а какие есть показания для гастроскопии? Человек может сам решить, что ему надо исследовать себя изнутри, или все же должно быть направление врача?**

– Конечно, человек не приходит с улицы, потому что вдруг решил себя проверить. Как правило, это пациенты с какими-то жалобами: изжога, отрыжка, тяжесть или боли в области желудка… Или пациенты, которых направляют различные специалисты, часто даже при отсутствии жалоб. Гастроскопия не требует специальной подготовки, достаточно перед процедурой не есть и не пить 6 часов, и, конечно, она выполняется чаще, чем, например, колоноскопия – обследование толстой кишки.

**– Выполняя гастроскопию, врач-эндоскопист видит все болезни?**

– Что значит болезни? Он видит то, что происходит со слизистой, сосудистые аномалии. Современная аппаратура позволяет достигать очень высокой степени визуализации. Мы работаем на аппаратах, у которых есть функция NBI – это специальный свет, который позволяет выявлять минимальные изменения участков слизистой. Конечно, такая аппаратура значительно улучшает качество осмотра.

Очень часто выявляем эзофагиты – воспаления в пищеводе, которые требуют очень кропотливого лечения. Если оставить это состояние без внимания, то клетки могут переродиться. Один из симптомов эзофагита – изжога, на которую не всегда обращают внимание, но которая может сигнализировать о серьезной проблеме. При гастроскопии выявляются гастриты, язвы, полипы, эрозии. Минимальный дискомфорт в системе пищеварения должен заставить человека обратиться за консультацией. Чем раньше обнаружим проблему, тем быстрее начнем ее лечить.

## «После 40 лет колоноскопию нужно пройти обязательно…»

**– Сегодня очень много аргументов звучит за проведение колоноскопии. Онкологи, например, говорят, что колоноскопия – один из наиболее верных способов профилактики злокачественных образований в толстом кишечнике.**

– Да, цель этого исследования – как можно ранее выявить заболевания, рискующие перерасти в опухоль. Важна диагностика воспалительных, фоновых заболеваний, которые потом могут перерождаться в онкозаболевания.

**– И как часто именно с такими профилактическими целями надо выполнять колоноскопию?**

– Колоноскопия выполняется по показаниям, когда у человека есть какие-то жалобы и его на исследование направляет гастроэнтеролог, гинеколог или другой специалист.

Возраст после 40 лет также является показанием для колоноскопии, если человек ни разу не выполнял это исследование. То есть после 40 нужно пройти его обязательно, даже если человека ничего не тревожит.

**– Но колоноскопия достаточно болезненный метод диагностики…**

– Нет, не обязательно. У некоторых пациентов в связи с анатомическими особенностями, наличием в анамнезе перенесенных операций данная процедура вызывает болезненные ощущения. В таких случаях на помощь приходит внутривенная анестезия, которая позволяет пациенту уснуть на несколько минут. Пока он спит, выполняется колоноскопия, и он, во-первых, ничего не чувствует, во-вторых, проснувшись, ничего не помнит об этом исследовании. В каждом случае подбирается и дозировка, и препарат, и комбинация препаратов. Имеет значение возраст, вес, возбудимость пациента и т.д. В нашем центре есть изолированное помещение, куда мы направляем пациента после выполнения исследования под анестезией, там он находится в безопасности, под наблюдением врача.

Это обеспечивает комфортное проведение процедуры, пациенты даже не помнят, как проходило исследование.

**– А насколько эндоскопические методы исследования рискованные? Как часто случаются осложнения?**

– Если исследование выполняется квалифицированным врачом-эндоскопистом, то риск возникновения таких грозных осложнений, как перфорации или кровотечение при биопсии, незначительный. Но, к сожалению, никто не застрахован, это может быть непредвиденно, если есть выраженный значительный процесс в желудке или кишке. И гастроскопия, и колоноскопия – это инвазивные методы диагностики, это сложные медицинские вмешательства. Наши специалисты это понимают, поэтому подходят к данным видам исследования с большим вниманием и осторожностью.

## «От биопсии будет зависеть, как лечить пациента»

**– Наталья Витальевна, а что такое капсульная эндоскопия? В Беларуси некоторые центры предлагают и такой вид диагностики.**

– Это метод исследования тонкого кишечника, который не виден ни при гастро-, ни при колоноскопии. Это технически очень высокий уровень обследования. Пациент, как большую таблетку, глотает видеокапсулу, которая естественным путем проходит по пищеводу, желудку, двенадцатиперстной кишке, тонкому, толстому кишечнику и автоматически делает цветные снимки. Заряда хватает на 9–10 часов работы капсулы. Все это время пациенту не надо находиться рядом с врачом, снимки автоматически передаются на записывающее устройство, которое располагается в специальном жилете, который пациент надевает. По окончании исследования видеокапсула выходит из организма естественным путем, а видеоинформация с записывающего устройства переносится на монитор и потом изучается врачом.

**– Получается, это самый безболезненный метод диагностики?**

– В принципе, да. И при этом очень информативный. Например, все пациенты, которым в «ЛОДЭ» делали капсульную эндоскопию, были из числа тех, кто долго ходил по врачам и не мог выяснить причину болей в животе. А этот метод диагностики помог. Оказалось, что причина болей была в тонком кишечнике. Он при традиционной эндоскопии оставался неосмотренным: гастроскопия позволяет осмотреть верхний отдел желудочно-кишечного тракта (пищевод, желудок, двенадцатиперстную кишку), колоноскопия – нижний отдел (толстую кишку).

Капсула – это тоже эндоскопия. Для ее проведения также требуется специальная подготовка кишечника, как и при колоноскопии.

Капсульная диагностика – это, конечно, большой шаг в диагностике. Но он, например, не дает возможности взять биопсию. А сейчас при проведении гастроскопии, скажем, в желудке мы обязательно берем биопсию, потому что микроскопическая оценка состояния слизистой помогает лечить ряд невидимых патологий. Даже некоторые гастриты верифицируются только с помощью биопсии. От биопсии будет зависеть, как лечить пациента, будет зависеть кратность его визитов к врачу, в том числе и к эндоскописту.

**– Выходит, альтернативы у эндоскопических методов нет?**

– Это абсолютно уникальные и точные методы диагностики. Это осмотр слизистой изнутри, который не заменит ни рентген, ни УЗИ. Мы не можем даже их сравнивать. Это абсолютно разные методы диагностики, которые друг друга дополняют. И если УЗИ поставит вопрос, то эндоскопия – точку.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ДАЛЁКАЕ–БЛІЗКАЕ

# Як савецкі лейтэнант-памежнік збег з «імперыі Сталіна»



Раніцай 24 лютага 1928 года памежны нарад польскага Корпуса аховы памежжа (КАП) са здзіўленнем убачыў савецкага афіцэра на кані, які перасек лінію мяжы і накіраваўся ў іх бок. *«Не страляць! Правядзіце мяне да вашага камандзіра»,* – выкрыкнуў парушальнік мяжы. Праз некаторы час «госць з усходу» сядзеў перад начальнікам польскай стражніцы і даваў паказанні.

Кім быў гэты таямнічы «перабежчык» і што ён прынёс на польскі бок?

## Багаты ўлоў польскіх памежнікаў

Выпадкі пераходу жаўнераў савецкай памежнай аховы на польскі бок у міжваенны час былі даволі частымі. У асноўным на такі крок ішлі радавыя чырвонаармейцы. А вось зімовым ранкам 1928 года «рыжскі кардон» паміж знакамі №№1275 і 1276 перайшоў... лейтэнант, намеснік камандзіра 14-й заставы 4-й камендатуры 18-га памежнага атрада НКУС БССР у Жыткавічах **Аляксандр Цімафеевіч Дзямідаў** *(на здымку)*. На момант «здрады» афіцэру было ўсяго 23 гады.

У штабе 5-й брыгады КАП у Лахве (сёння Лунінецкі раён Брэсцкай вобласці) савецкага памежніка дапыталі. Аказалася, што лейтэнант прыйшоў на польскі бок не «пусты». У Львоў і Варшаву тут жа паляцелі тэлеграмы-маланкі. У адной з іх, у прыватнасці, адзначалася: *«Раніцай 24 лютага гэтага года на ўчастку 18 батальёна КАП перайшоў мяжу савецкі афіцэр. Пасля допыту на мяжы ён будзе адасланы ў распараджэнне Экспазітуры V Другога аддзела Генеральнага штаба».* У іншай дэпешы было сказана: *«Савецкі афіцэр прынёс наступныя матэрыялы: 1.Часовы расклад службы савецкай памежнай аховы войскаў АДПУ на 1927 год, №3481; 2.Расклад унутранай службы войскаў АДПУ за 1924 год; 3.Апісанне ручнога кулямёта «Максім-Токараў», №2916; 4.Кнігу «Вывучэнне вопыту дзяржаўнай мяжы і ўчастка 14-й заставы 4-й камендатуры за 1927 год»; 5.Розныя сакрэтныя дакументы 14-й заставы 4-й камендатуры 18-га памежнага атрада за 1928 год. Усяго 106 старонак. Гэтыя дакументы, а таксама асабістыя рэчы разам з Дзямідавым, а таксама яго дэкларацыяй пра добраахвотны пераход мяжы ў Польшчу і жаданне застацца на пастаяннае жыхарства ў Польшчы адпраўляю камандаванню 17-га батальёна КАП у Давыд-Гарадку з мэтай перадачы дэкларацыі савецкім прадстаўнікам на сумеснай Камісіі па вырашэнні памежных пытанняў».*

## Дыверсанты ў Мінску і структура савецкіх памежных атрадаў

Увесь гэты час маладога савецкага афіцэра падрабязна дапытвалі, верагодна, баючыся, што савецкі бок запатрабуе вярнуць перабежчыка. На допытах Дзямідаў трымаўся ўпэўнена і адказваў на ўсе пытанні польскіх следчых. Так, падчас адной з «размоў» лейтэнант заявіў, што неаднаразова ездзіў у Мінск на «стажыроўкі» і, паводле яго дадзеных, у сталіцы БССР існуе адмысловы аддзел АДПУ, які падрабязна вывучае магчымасць дыверсійнай дзейнасці на тэрыторыі Польшчы. Пры гэтым да супрацоўніцтва з гэтым аддзелам прыцягваліся ў тым ліку і дэзерціры з Войска Польскага, якія збеглі на тэрыторыю БССР. Аснову дыверсійных атрадаў складалі чырвонаармейцы і супрацоўнікі савецкай разведкі, якія валодалі польскай мовай і выдатна арыентаваліся на мясцовасці.

Падчас іншага допыту перабежчык паведаміў асаблівасці функцыянавання 18-га памежнага атрада. Характарызуючы, напрыклад, начальніка атрада Івана Стабіна, савецкі лейтэнант даў падрабязнае апісанне знешнасці свайго былога камандзіра, а таксама асаблівасцяў яго працы. *«Стабін патрабавальны, але справядлівы. Праводзячы інспекцыі, ён прыязджае на кожную заставу па разе на чатыры месяцы. У камендатурах начальнік атрада бывае раз на два-тры месяцы. Яго жонка – латышка, 25 гадоў. Упаўнаважаным сакрэтна-аператыўнай часці з'яўляецца Крэс, у пятліцах два квадраты (лейтэнант). Папярэдне ён працаваў на кантрольна-прапускным пункце. Штаб 17-га памежнага атрада знаходзіцца ў Цімкавічах у новапабудаваных казармах. Будынкі драўляныя, пакрытыя дранкай. Вайсковы гарадок складаецца з некалькіх будынкаў. Ёсць там дом для афіцэраў і іх сем'яў, другі будынак – чырвонаармейскія казармы, трэці – штаб памежнага атрада, чацвёрты – турма, пяты – стайня. Штаб 3-й камендатуры 17-га памежнага атрада знаходзіцца ў фальварку Вызна. У будынку знаходзіцца камутатар. Шыфры для тэлефонных апаратаў змяняюцца кожныя два тыдні. 14-я застава 18-га памежнага атрада знаходзіцца ў вёсцы Глушкавічы ў былым доме папа. Пры заставе ёсць стайня, склад, лазня і сталовая. Побач з заставай акопы, якія накіраваны ў бок мяжы. Савецкія памежнікі ўзброены «трохлінейкамі», звычайна чырвонаармеец мае па 30 патронаў. На некаторых заставах камандаванне выдае радавым па 60 патронаў. Кожны жаўнер мае па два падсумкі ці адзін падсумак і патранташ. Чырвонаармейцы, якія ідуць на патруляванне мяжы, атрымліваюць па адной аба-рончай гранаце ўзору 1914 года. Камандзіры ўзброены рэвальверамі «Наган». Для патрулявання мяжы звычайна выкарыстоўваюцца пешыя і конныя патрулі. Кожная застава мае свой план аховы мяжы. Камандзіры застаў з канца 1926 года павінны весці кнігу «Вывучэнне вопыту аховы мяжы», у якой афіцэры запісваюць усе асаблівасці аховы мяжы на сваім участку. Падрыхтоўка жаўнераў адбываецца ў «вучбатах». На заставах у асноўным кулямёты «Максім», аднак ёсць і французскія «Шашо», а таксама амерыканскія «Томпсаны»,* – адзначалася ў пратаколе допыту лейтэнанта Дзямідава, праведзеным польскімі памежнікамі ў Давыд-Гарадку.

## Што далей?

Малады савецкі афіцэр-перабежчык стаў сапраўднай знаходкай для польскай разведкі, і гэта вельмі непакоіла савецкае памежнае камандаванне. Вось што адзначалася ў лісце польскіх ваенных, накіраваным у сакавіку 1928 года з Лахвы ў Варшаву: *«Пабег Дзямідава выклікаў сапраўдны перапалох у 18-м памежатрадзе. Яго начальнік цісне на польскі бок, каб Дзямідаў асабіста ўдзельнічаў у працы змешанай памежнай камісіі і ў акрэсленым імі пункце (на рацэ Случ) паміж памежным пераходам Мікашэвічы--Жыткавічы. Гэтая справа ўжо абмяркоўвалася на пасяджэнні змешанай камісіі 2 сакавіка. Дзеля таго каб пазбегнуць эксцэсаў, лічу немэтазгодным асабісты ўдзел Дзямідава ў працы камісіі. Ці магчыма было б зрабіць так, каб Дзямідаў быў прадстаўлены на камісіі, але на ўчастку зусім іншай памежнай брыгады?»* У лісце ад 12 сакавіка 1928 года адзначалася: *«Камісія, на якой будзе прадстаўлены Дзямідаў, павінна адбыцца на тэрыторыі Польшчы, а не на мяжы. У якасці месца прапаную Ракітна. Не трэба ісці на саступкі бальшавікам і на іншыя камбінацыі. Дзеля правядзення камісіі павінна хапіць ліста ад Дзямідава. Усе грашовыя кошты бярэ на сябе Экспазітура (аддзел польскай разведкі ў Львове)».*

З дакументаў, якія сёння захоўваюцца ў Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы, можна зрабіць выснову, што польскі бок высока цаніў перабежчыка. *«Інтэлектуальны ўзровень гэтага чалавека дастаткова высокі. Трэба выкарыстаць гэты момант»,* – адзначалася ў адным з дакументаў. 27 сакавіка 1928 года на імя начальніка Экспазітуры V Генеральнага штаба Войска Польскага прыйшла тэрміновая дэпеша, у якой падкрэслівалася: *«Патрабуем як мага хутчэй накіраваць у распараджэнне Другога аддзела Генеральнага штаба (разведкі) усе дакументы, якія прынёс афіцэр савецкай памежнай аховы Аляксандр Дзямідаў. Адначасова рэкамендуем накіраваць гэтага чалавека ў Варшаву з мэтай выкарыстання яго цэнтральнымі ўстановамі».*

## «Польскі гастарбайтар»

У савецкіх улад так і не атрымалася вярнуць Аляксандра Цімафеевіча Дзямідава на тэрыторыю БССР. Ужо ў красавіку 1928 года былому памежніку зрабілі польскі пашпарт №423145, з якім ён накіраваўся ў консульства Аргенціны ў Варшаве. У графе «Прафесійная дзейнасць» анкеты на атрыманне аргенцінскай візы былы савецкі памежнік адзначыў: «селянін». Мэта выезду за акіян гучала банальна: «працоўная эміграцыя».

18 красавіка 1928 года з Варшавы ў Львоў прыйшла тэлеграма з наступным тэкстам: *«Інфармую, што пан Аляксандр Дзямідаў выехаў з Гдыні ў Аргенціну 14 красавіка на борце карабля «Алманзора».*

Далейшы лёс савецкага памежніка, які збег з «імперыі Сталіна», невядомы. Магчыма, ён ператварыўся ў звычайнага эмігранта з Другой Рэчы Паспалітай, а яго нашчадкі па сённяшні не ведаюць, як іх продак аказаўся ў Лацінскай Амерыцы.

Пабег лейтэнанта Дзямідава стаў вялікай праблемай для савецкіх улад. Ім прыйшлося ўносіць значныя змены ў функцыянаванне памежнай аховы на ўчастку савецка-польскай мяжы, якую ахоўваў 18-ы памежны атрад. Дарэчы, тады ж начальнік атрада Іван Стабін быў зняты са сваёй пасады і заменены іншым афіцэрам.

**Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук.**

